ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ДЫСПРАПОРЦЫІ НА РЫНКУ ПРАЦЫ БЕЛАРУСІ

НАТАЛЛЯ ШЧЭРБІНА

***Анатацыя:*** У артыкуле прааналізаваныя дыспрапорцыі рынку працы Беларусі, вылучаны найбольш істотныя з іх, а таксама прапанаваныя агульныя захады па змяншэнні дыспрапорцый паміж рэгіянальнымі рынкамі працы.

***Ключавыя словы:*** рэгіянальнае развіццё, рынак працы, узровень занятасці, рабочая сіла.

# REGIONAL IMBALANCES IN THE LABOUR MARKET OF BELARUS

***Abstract:*** The paper detects and analyses the regional imbalances in the Belarusian labour market, and proposes broad measures on their reduction.

***Keywords:*** Regional Development, Labour Market, Employment Level, Labour Force.

Адной з найбольш істотных рысаў рынку працы ў Беларусі з'яўляецца высокая доля занятасці на дзяржаўных прадпрыемствах. Гэтая асаблівасць абумоўлівае высокі ўзровень занятасці цалкам па краіне. Згодна з дадзенымі Белстата за 2013 год, 40,6% працуючых у краіне было ўладкавана на дзяржаўных прадпрыемствах, 6,8% – на прадпрыемствах змешанай формы ўласнасці, 56,5% – на прадпрыемствах прыватнай формы ўласнасці, 2,9% – на замежных прадпрыемствах. Значная доля занятых на прадпрыемствах дзяржаўнай і змешанай формы ўласнасці, з аднаго боку, адпавядала мэтам забеспячэння як мага больш поўнай занятасці, з другога – прыводзіла да неэфектыўнага размеркавання працоўнай сілы, павялічвала выдаткі на захаванне лішкавай занятасці, негатыўна адбівалася на працоўнай мабільнасці насельніцтва. Асабліва гэта тычылася рэгіянальных рынкаў працы, дзе структура занятасці па галінах эканомікі змянялася не так хутка, як, напрыклад, у сталічным рэгіёне. Змены ў бок павелічэння занятасці ў прыватным сектары таксама адбываліся больш павольна.

Увогуле, дынаміка развіцця рэгіянальных рынкаў працы не адлюстроўвае глыбокіх дыспрапорцый у рэгіянальных профілях занятасці на ўзроўні адміністратыўных абласцей. Для ўсіх рэгіёнаў да апошняга часу былі характэрны высокі ўзровень занятасці, значнае зніжэнне ўзроўню афіцыйнага беспрацоўя, высокі ўзровень занятасці ў дзяржаўным сектары. Аднак можна вылучыць тры плоскасці, дзе рэгіянальныя дыспрапорцыі на рынку працы праяўляюцца ў найбольшай ступені: пры параўнанні паказчыкаў развіцця рынку працы ўсіх абласцей і паказчыкаў сталічнай агламерацыі (Мінск і Мінская вобласць); пры параўнанні занятасці ў гарадской і сельскай мясцовасці; пры параўнанні паказчыкаў занятасці паміж раёнамі.

Павелічэнне дыспрапорцый у сацыяльна-эканамічным развіцці сталічнай агламерацыі і астатняй тэрыторыі краіны сведчыць пра існаванне праблемы палярызацыі прасторавага развіцця ў адпаведнасці з прынцыпам "цэнтр-перыферыя". Канцэнтрацыя эканамічных, тэхналагічных, чалавечых рэсурсаў стварыла магчымасці для інтэнсіўнага развіцця і ўзмацнення канкурэнтных пераваг сталічнага рэгіёна. Трансфармацыя рынку працы ў сталіцы адбывалася значна хутчэй, чым ва ўсіх астатніх рэгіёнах. Занятасць у прыватным сектары ў Мінску ў 2013 годзе складала амаль 65%, пры гэтым у сферы паслуг было занята 69,5 % ад усіх занятых. У сталіцы ў прыватным сектары хутчэй фарміруецца эфектыўная структура занятасці, развіваюцца яе новыя формы, распаўсюджваюцца новыя формы кантрактаў: кантракты з пазаштатнымі супрацоўнікамі, часовыя кантракты, кантракты для аддаленай працы, працы па выкліку. Для сталіцы характэрна вы-

сокая працоўная мабільнасць, што абумоўлена высокім попытам на працоўную сілу, узроставым складам працаздольнага насельніцтва (доля моладзі – найбольш мабільнай часткі працоўнай сілы – у Мінску найвышэйшая ў краіне), высокім адукацыйным узроўнем работнікаў.

Дыспрапорцыі ў паказчыках занятасці ў гарадской і сельскай мясцовасцях праяўляюцца ва ўстойлівым зніжэнні занятасці ў сельскай мясцовасці. У першую чаргу гэта абумоўлена дэмаграфічнымі тэндэнцыямі – значным скарачэннем сельскага насельніцтва ў працаздольным узросце, унутранай міграцыяй, выкліканай працэсамі ўрбанізацыі.

Зніжэнне занятасці ў сельскай мясцовасці суправаджалася нізкім узроўнем заробкаў у сельскагаспадарчых прадпрыемствах і нізкай працоўнай мабільнасцю сельскага насельніцтва. Гэта абумовіла выхад часткі працаздольнага насельніцтва ў сферу самазанятасці, даходы ў якой маглі перавышаць афіцыйныя заробкі на сельскагаспадарчых прадпрыемствах. У Беларусі існуюць сельскія раёны, дзе, паводле афіцыйных дадзеных, узровень занятасці значна ніжэйшы, чым у сярэднім па краіне, але насельніцтва актыўна займаецца самастойнай вытворчасцю сельскагаспадарчай прадукцыі на ўласных надзелах для наступнага продажу (Столінскі, Ганцавіцкі, Пінскі раёны Брэсцкай вобласці).[1] Таксама з афіцыйнай занятасці на сельскагаспадарчых прадпрыемствах з нагоды нізкіх заробкаў выходзіла працаздольнае насельніцтва, якое накіроўвалася на заробкі ў суседнія краіны, уладкоўвалася на працу сезонным і вахтавым метадам, займалася памежным гандлем.

Разам з тым сярод сельскіх раёнаў існуюць і раёны з лішкавай занятасцю ў буйных аграпрамысловых комплексах, у якіх высокі ўзровень занятасці да апошняга часу падтрымліваўся незалежна ад рэнтабельнасці і патрэбы ў кадрах сельскагаспадарчага прадпрыемства. Распаўсюджванне новай сельскагаспадарчай тэхнікі, тэхналогій збору, захавання, апрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі вызначаюць патрэбу ў кадрах спецыяльнай кваліфікацыі, тым часам як працаваць у вёсцы застаюцца людзі з невысокім адукацыйным узроўнем і без адпаведнай кваліфікацыі. У выніку, з аднаго боку, сельскагаспадарчае прадпрыемства вымушана захоўваць залішнюю колькасць нізкакваліфікаваных работнікаў, з другога – мае вострую патрэбу ў высокакваліфікаваных кадрах сельскагаспадарчай спецыялізацыі.

Рэзкія дыспрапорцыі можна назіраць пры аналізе рынку працы на ўзроўні раёнаў. Значэнні ўзроўню занятасці (колькасць занятага насель-

[1] Дадзеныя аб вытворчасці сельгаскультур у прыватных падсобных гаспадарках прадстаўлены выключна на ўзроўні абласцей, таму можна спасылацца толькі на ўскосныя сведчанні аб сельскагаспадарчай спецыялізацыі такіх гаспадарак пазначаных раёнаў. Гл., напрыклад, http://euroradio.fm/ru/report/fermer-iz-olshan-khvatilo-dnya-chtoby-zavalit-ogurtsami-vsyu-belarus-105960; http://www.expressnews.by/2397.html

ніцтва да насельніцтва ў працаздольным веку) па раёнах вагаюцца ў межах значэнняў ад 0,582 (Гомельскі раён) да 1,068 (Мінскі раён). Да апошняга часу высокі ўзровень занятасці ў асобных раёнах забяспечваўся пераважна за кошт канцэнтрацыі ў іх буйных прамысловых комплексаў. Такія цэнтры прамысловай вытворчасці ёсць у кожнай вобласці. Традыцыйна высокі ўзровень занятасці назіраецца ў раёнах з экспартаарыентаванымі прадпрыемствамі хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці (напрыклад, у Салігорскім, Мазырскім, Наваполацкім раёнах).

Аднак часцей высокі ўзровень занятасці ў раёнах прамысловай спецыялізацыі карэлюе з паказчыкамі нізкай рэнтабельнасці прамысловых прадпрыемстваў у асобных раёнах, што з'яўляецца прамым сведчаннем неэфектыўнай і залішняй занятасці. У кожнай вобласці існуюць раёны, у якіх размешчаны буйныя альбо сярэднія прамысловыя прадпрыемствы з высокай колькасцю занятых. Пры гэтым нізкая рэнтабельнасць альбо нават стратнасць дзейнасці такіх прадпрыемстваў патрабуе неадкладнай рэструктурызацыі і нярэдка скарачэння колькасці працуючых.

Сярод раёнаў з высокім узроўнем занятасці можна вылучыць і такія, дзе назіраецца ўстойлівае павелічэнне колькасці занятага насельніцтва, на якое паўплывала спалучэнне некалькіх умоў фарміравання эфектыўнага рынку працы. Напрыклад, высокі ўзровень занятасці ў Нясвіжскім раёне (узровень занятасці павялічыўся з 0,853 у 2008 годзе да 0,917 у 2012) быў дасягнуты праз рэалізацыю буйнога дзяржаўнага праекта па рэканструкцыі Нясвіжскага палаца і дзейнасць у раёне буйнога прадпрыемства па перапрацоўцы цукру "Гарадзейскі цукровы камбінат", які акрамя асноўнай вытворчасці развіў брэнд-інфраструктуру, у абслугоўванне якой таксама ўключана насельніцтва раёна.

Нізкі ўзровень занятасці мае спецыфічныя для кожнай групы раёнаў тлумачэнні. Напрыклад, памежныя з суседнімі краінамі раёны сутыкнуліся з выхадам працаздольнага насельніцтва са сферы афіцыйнай занятасці ў сферу самазанятасці, звязанай пераважна з памежным гандлем і працоўнай міграцыяй. Паказчыкі ўзроўню занятасці ў Гарадоцкім, Браслаўскім, Ашмянскім, Астравецкім, Смаргонскім раёнах знаходзяцца на ніжэйшай мяжы ўзроўню занятасці ў краіне.

Яшчэ адна група раёнаў з нізкім узроўнем занятасці месціцца на тэрыторыях Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Гэта раёны, што маюць статус раёнаў з наступным адсяленнем: Касцюковіцкі, Краснапольскі, Чэрыкаўскі раёны ў Магілёўскай вобласці і Нараўлянскі, Веткаўскі, Добрушскі, Чачэрскі, Буда-Кашалёўскі – у Гомельскай. Нізкі ўзровень занятасці ў гэтых раёнах звязаны з асаблівым статусам тэрыторый, які прадугледжвае сацыяльныя выплаты і льготы для насельніцтва дадзе-

ных раёнаў, што з'яўляецца дадатковым фактарам выхаду насельніцтва са сферы афіцыйнай занятасці.

Зніжэнню рэгіянальных дыспрапорцый на рынку працы пасрыяе развіццё прыватнага сектара, рэгіянальных малых і сярэдніх прадпрыемстваў, дзейнасць якіх здольная паскорыць фарміраванне эфектыўных рынкаў працы ў рэгіёнах. Значных паляпшэнняў у сферы рэгіянальнай занятасці можна дасягнуць праз павышэнне канкурэнтаздольнасці і матывацыі работнікаў, распаўсюджванне сістэмы індывідуальных умоў працы для найбольш кваліфікаваных супрацоўнікаў, стымуляванне індывідуальных вынікаў працы.